ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 30 (2556)
ПЯТНІЦА
23
ліпеня 1971 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

## ГАСТРОЛЬНАЕ ЛЕТА

**Амаль кожны выпуск апошніх паведамленняў Маскоўскага радыё гаворыць і пра выступленні беларускай оперы і балета на сталічнай сцэне. Яны праходзяць з поспехам. А тут, у Мінску, адзін са старэйшых тэатраў Расіі — Ленінградскі акадэмічны тэатр драмы імя Пушкіна — разгортвае старонкі драматургічных твораў пра мінулае і пра сучаснасць, заваёўваючы ўсё новых і новых прыхільнікаў. Характэрная рыса сёлетніх гастроляў — сустрэчы артыстаў непасрэдна ў заводскіх цэхах, на калгасных станах, у студэнцкіх аўдыторыях. Учора, напрыклад, артысты Чаркаскага музычна-драматычнага тэатра імя Шаўчэнкі, якія выступаюць у Мінску адначасова з ленінградцамі, былі ў гасцях у рабочых мотавелазавода. А пушкінцы пабывалі ў беларускіх калгаснікаў.**

Матэрыялы пра гастрольнае лета-71 чытайце на стар. 2.



**У ліпені яны сталі гаспадарамі славутага Вялікага тэатра. Зразумела, гэты здымак на фоне апетага ў вершах і прозе гмаха будзе для іх гістарычным у лепшым значэнні слова. Злева направа — А. Сухін, заслужаныя артысты БССР Р. Красоўская і В. Гур'еў, артысты І. Шыкунова і І. Адзінцова, заслужаныя артысты БССР Л. Златава і В. Ганчарэнка.**

Фота В. КАПЫЛОВА.



У калектыве саўгаса «Ждановічы» знайшліся гарачыя прыхільнікі пушкінцаў, асабліва тых, хто здымаецца ў кіно. На здымку, зробленым нашым фотакарэспандэнтам Ул. Крукам, вы бачыце, як дружна трымаюць гледачы «ў асадзе» народнага артыста РСФСР Ігара Гарбачова і заслужаную артыстку РСФСР Ніну Ургант.

## У НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ:

Барыс КРЭПАК

# ЗАЎТРАШНІ ДЗЕНЬ МАСТАЦТВА

ГАВОРАЧЫ пра творчасць маладых мастакоў, пра іх месца ў мастацтве, трэба ўлічваць, наколькі і як звязаны іх пошукі з асэнсаваннем вопыту папярэднікаў. Перш за ўсё, зразумела, важна ўсвядоміць: што з гэтага вопыту моладзь развівае, а што аспрэчвае? Адказаць на пытанне—цяжэй, чым здаецца на першы погляд, бо неабходна паглыбляцца ў многія пытанні тэорыі і практыкі беларускага мастацтва (змест і форма, традыцыі і наватарства, рацыянальнае і эмацыянальнае ў выяўленчым мастацтве і г. д.).

Так, скажам, некаторыя з'явы ў нашым мастацтве, напрыклад, 50-х гадоў не вытрымалі параўнальна кароткага выпрабавання часам. Але ж нельга, як бывае ў спрэчках, цалкам адмаўляць створанае ў тыя гады. Ідучы наперад, нельга ўзрываць масты на пройдзеным шляху. Сённяшні вопыт мастацтва звязаны з набытым раней куды больш трывала, чым нам здаецца, нягледзячы на ўсю рэзкасць, з якой, бывае, новае ў мастацтве «адрываецца» ад папярэдняга.

З другога боку, наўрад ці варта здзіўляцца, што новае не проста і далёка не заўсёды мірна «прарастае» на ствале традыцый. Абудзіць фантазію, раскаваць уяўленне, вывесці думку за рамкі звыклага, мабыць, куды зручней не на пратаптаных сцежках мастацтва. Аднак, на жаль, пытанне ставіцца часам так: навошта, маўляў, аб'язджаць мустангаў, калі больш бяспечна ездзіць на поні?

Сёння мы бачым, як моладзь (і не толькі яна) захапляецца то майстрамі сярэдневякоўя і ранняга Адраджэння, то рускай іконай, то мастацтвам 20-х гадоў, то манументальным жывапісам Мексікі і шмат чым іншым. І ў гэтым няма нічога дзіўнага: забыццё многіх дасягненняў мастацтва далёкага і недалёкага мінулага ніколі яшчэ нікога не ўзбагачала. Іншая справа, што нельга «генералізаваць» тую ці іншую з прыгаданых традыцый, бачыць толькі ў ёй сапраўдную дарогу ў заўтрашні дзень мастацтва. І лепшая частка маладых мастакоў пачынае разумець: адмаўленне традыцый само па сабе нічога не стварае. Паступова пераадольваецца ўяўленне, быццам тварыць па-новаму зусім не цяжка: варта, маўляў, рабіць гэта ў што б там ні стала «інакш», чым раней. Існавалі нават «рэцэпты сучаснага стылю»: лаканізм, экспрэсіўнасць, плоскаснасць, манументалізм, зведзены да схематызацыі, агрубленне форм, зведзенае да выпустошэння душы чалавечай. У той жа час відавочна, што нямала карыснага назапашана нашым мастацтвам, дзякуючы ўпартым, падчас зусім не «гладкім» пошукам шляхоў узбагачэння рэалістычнай традыцыі — пошукам новых сюжэтаў і тэм, новых кампазіцыйных, каларыстычных і іншых сродкаў выяўлення задумы.

ЖЫЦЦЁ паказала, што творчасць мастацкай моладзі шматгалосая, шматаблічная, хаця, зразумела, далёка не ва ўсіх сваіх узорах бездакорная. Што грахі ўтойваць, нямала мы пабачылі на нашых маладзёжных выстаўках эпігонскага запазычання манеры пісьма, стылю, кампазіцыйных і каларыстычных сістэм. Але найбольш адораныя з маладых мастакоў маюць творы, якія сведчаць пра станоўчыя тэндэнцыі іх творчага пасталення. Хаця гэтыя тэндэнцыі не заўсёды лёгка распазнаць на фоне бурнай стылістычнай перабудовы беларускага выяўленчага мастацтва, асабліва жывапісу (перабудовы, звязанай, зусім натуральна, не з адны́мі толькі ўдачамі). Так, напрыклад, шмат у чым павучальная эвалюцыя творчасці В. Сумарава. Раней мне здавалася, што яго падпільноўвае небяспека самапаўтарэння, калі ён не выйдзе за межы жанрава-сузіральнага аналізу жыцця, няхай і зробленага таленавіта, як у карцінах «Мой дом», «У выхадны», «Вясна ў сталіцы», «Іней». Але ў рабоце «Кастрычнік» В. Сумараў узнімае ўжо сацыяльна-значную тэму, якая ўзнікла, відаць, з арганічнай патрэбы выказаць больш шырокія абагульненні, чым раней. Менавіта гэта нельга забываць, разважаючы пра здабыткі і страты маладога мастака ў новай рабоце.

Няхай даруе мне чытач, што я зараз прывяду вялізны спіс маладых мастакоў, якія добра заявілі аб сабе на выстаўках апошніх гадоў. Але я павінен гэта зрабіць, каб не быць галаслоўным у сваіх высновах, якія я накрэсліваю досыць-такі канспектыўна. Сённяшні стан нашага мастацтва нельга ўявіць сабе досыць поўна, калі не ўлічваць створанае такімі мастакамі, як В. Шаранговіч, Л. Зільбер, А. Пятрухна, Ул. Харанека, М. Рыжыкаў, А. Дэмарын, А. Веліксонаў, Ю. Палякоў, А. Бараноўскі, Б. Казакоў, П. Свентахоўскі, Ю. Зайцаў, А. Кузьміных, У. Пашчасцеў, Г. Ціхановіч, М. Лазавы, В. Тарасаў, Ул. Зубараў, І. Юдзянок (Мінск); Ф. Гумен, Г. Шутаў, Я. Красоўскі, В. Ральцэвіч (Віцебск); І. Хоміч, В. Андрушчачка, І. Крупскі (Брэст); В. Кірэеў, В. Шпартаў (Магілёў); В. Самачэрнаў, Ю. Нікіфараў (Бабруйск); С. Гарачаў, Я. Іванешка (Гомель); Л. Налівайка, В. Шчарбакоў, М. Апіок (Гродна). Многа можна чакаць ад А. Арцімовіча, 1. Волкавай, Д. Папова, Н. Голышавай, Г. Скрыпнічэнкі, Л. Давідзенкі, Н. Стомы, А. Пуцейкі.

Прыгадаем такія работы нашай мастакоўскай моладзі, як, напрыклад, графічныя лісты «Песні грамадзянскай вайны» М. Лазавога, «Хатынь» Ю. Зайцава, творы аб Гродзенскім азотнатукавым заводзе М. Рыжыкава, аб беларускіх шахцёрах У. Пашчасцева, ілюстрацыі да паэмы У. Маякоўскага «У. І. Ленін» В. Шаранговіча, скульптурныя кампазіцыі «Рабфак» Л. Зільбера, «1919-ы» В. Андрушчанкі, рабочую мадэль помніка ахвярам Курлоўскага расстрэлу 1905 года Л. Давідзенкі і Л. Зільбера. Разнастайнасць творчых індывідуальнасцей, выяўленая ў гэтых і ў іншых работах, сапраўды ўнушае аптымізм. Бо гэтыя работы, як і лепшыя творы нашых прызнаных майстроў, істотныя для разумення жывога працэсу развіцця выяўленчага мастацтва Беларусі. Сёння для яго характэрны адыход ад бытавізму і ілюстрацыйнасці, імкненне да філасофскага асэнсавання разнастайных праяў жыцця.

Многія з названых тут і не названых маладых мастакоў развіваюцца «няроўна», у іх «ламаецца голас». Манерныя, прэтэнцыёзныя асобныя жывапісныя работы Л. Налівайкі, Ул. Матросава. Знешняе праўдападабенства гістарычнага факта, пазбаўленае вобразнага ўвасаблення ў карцінах «Абуджэнне» («Рабочы клас») Г. Качаноўскага, «Чаша гневу» Г. Лебедзева. Схематычныя палотны «Дзяўчаты» В. Ждана, «Сям'я» М. Кірэева. Яўна недастаткова пачуцця, думак у эцюдах А. Даўгялы.

Не заўсёды апраўданы ў маладых мастакоў вялікія фарматы работ, буйныя каляровыя плоскасці. У многіх адсутнічае строгая, дысцыплінуючая школа. Нярэдкая ў іх творчасці фальшывая манументальнасць, псеўдадэкаратыўнасць, ілюстрацыйнасць.

ПРЫНЦЫПОВА падкрэсліваючы, што імкненне маладых мастакоў пазбегнуць выпадковага, павярхоўнага, эмпірычнага ўнушае павагу, спынюся больш дэталёва на некаторых негатыўных баках іх творчасці.

Прыгадаю дзве першыя рэспубліканскія маладзёжныя выстаўкі 1966 года, нядаўнія абласныя выстаўкі работ маладых мастакоў у Гродне, Віцебску, Брэсце, паасобныя паказы іх творчасці ў Саюзе мастакоў. Нямала сіл тут траціць моладзь, каб вынайсці... веласіпед. Вельмі ўжо частае «дубліраванне» паўзабытых рэпрадукцый. Ці не таму гэта, што малады мастак нярэдка гаворыць не тое, што спазнаў, аб чым думаў, што адчуваў, а тое, што, на яго думку, ад яго чакаюць? Жахаешся ад думкі—вось-вось пад графічным лістом або пад палатном з'явіцца надпіс: «дубліравана» з карціны Дэрэна, партрэта Мадзільяні або з гравюры Фаворскага...

Хоць і вельмі цяжка, але неабходна ў мастацтве (як, між іншым і ў жыцці) заставацца самім сабой. І таму так непакоіць у работах маладых ніверліроўка падыходу і да тэматыкі, і да мастацкіх сродкаў. Напрыклад, я з цяжкасцю адрозніваў работы М. Навуменкава і А. Клімянкова на выстаўцы ў Гродне.

Гэта вельмі трывожны сімптом, калі натуральнае пачуццё, натуральны тэмперамент падменены завучанай ці запазычанай чужой інтанацыяй, як, напрыклад, у Ул. Маскоўскіх і Ю. Трускоўскага, чые творы былі паказаны ў Саюзе мастакоў БССР.

Сузіральнасць, абыякавасць да абранага матыву відавочныя ў некаторых эцюдах В. Дурава, Ф. Кісялёва, В. Панамарэнкі, Н. Пішчанкі, В. Лук'янава, В. Мікалаева, А. Волкава. Пераважна гэта элегічна-сумныя вёсачкі і ўскраіны гарадоў. Вось характэрныя назвы твораў не толькі гэтых маладых мастакоў: «Дворык», «Зімовы дворык», «Ля ракі», «Бераг ракі», «Старая дарога», «Дарога», «Горная дарога», «Дахі», «У вёсцы», «Касцёл. Нясвіж», «Касцёл», «Шэры дзень», «Шэрая раніца», «Завулак», «Стары млын», «Непагода», «Манастыр», «Пахмурны дзень», «Пахмурная раніца», «Змрок». Я ўжо не кажу аб бясконцых «мемарыяльных» серыях, якія паказваюць стары Талін, старую Рыгу, стары Вільнюс, стары Віцебск, стары Самарканд, Бухару і Хіву, Суздаль і Уладзімір, Кіжы і Каложу і г. д. Не зразумейце, быццам я супраць гэтых матываў. Я супраць таго, што яны пераважаюць, гучаць камерна, перапяваюць знаёмае па творах іншых.

БЫВАЕ, выказваецца думка, што пераважная большасць выпускнікоў Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута і Мінскага мастацкага вучылішча—спецыялісты вельмі сярэдняй кваліфікацыі, што яны не захапляюць ні прыроднай адоранасцю, ні асаблівымі, набытымі ў гады вучобы, мастакоўскімі якасцямі.

Ёсць добрая прыказка: «Не школа вучыць, а ахвота». Пастаянная ж апека прывучае спадзявацца на іншых.

Бывае, што студэнт з першага і да апошняга дня знаходжання ў навучальнай установе—толькі выканаўца задання. Таму так складана такому маладому мастаку пераходзіць да самастойнай пастаноўкі перад сабой сур'ёзных задач, якія патрабуюць самастойнасці мыслення, валодання выяўленчай мовай.

Я далёкі ад думкі рабіць абагульненні, і тым не менш... У 1967 годзе з Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута было выпушчана 47 чалавек, у 1968—43, у 1969—34. У Мінскім мастацкім вучылішчы—яшчэ больш. Дыпломныя работы тых гадоў—карціны «Агітпоезд «Кастрычніцкая рэвалюцыя» Р. Нарчука, «Край партызанскі» А. Пуцейкі, «Па харчразвёрстцы» Г. Мазурава, «Раздзел зямлі» І. Бараўко, «Хлеб» І. Голубева, «Партызаны» І. Гляцэвіча, графічныя лісты «Мінскае паравознае дэпо» М. Лашкова, «Студэнткі» К. Яўсеева, ілюстрацыі «Зоры над Руссю» да кнігі Ул. Мазалёва і іншыя—абнадзейвалі.

Але вось ідзе час, аднак нешта мала відаць «здабытага радыя» аўтарамі гэтых работ.

З таго ўрачыстага дня, калі пакладзены ў кішэню бясцэнны дакумент, які сведчыць, што «мастак-жывапісец або мастак-графік Н. накіроўваецца на працу», душа яго поўная дзёрзкіх задум, гордых летуценняў. Вось, маўляў, ён, малады мастак, ва ўсеўзбраенні тоўстых папак з рэпрадукцыямі Пікасо, Маціса, Лежэ, Пятрова-Водкіна, Гутуза наносіць сакрушальны ўдар па мастацкай руціне... Вось вакол яго гуртуецца калектыў аднадумцаў. Пішуцца адна за адной карціны, якія клічуць моладзь на подзвігі, на барацьбу з мяшчанствам, кан'юнктурай. І, можа, нават ловіць малады чалавек сябе на думцы, як недзе там, у будучым, росквіт выяўленчага мастацтва стануць звязваць і з яго імем...

Першая ж самастойная работа каштуе нямала пакут, незалежна ад таго, пішацца карціна, рэжацца лінолеум або выконваецца манументальны росліс. Дзесяткі разоў даводзіцца ўсё рабіць і перарабляць, а высокія і арыгінальныя думкі нібы на зло ніяк не хочуць увасобіцца...

Яму ўдалося ў сценах інстытута выканаць дыпломную работу. І тую—пад кіраўніцтвам педагога. На самастойным шляху столькі перашкод: малы вопыт, нязначнасць назапашаных жыццёвых уражанняў — асноўнага багацця мастака, адсутнасць майстэрні, недастатковая матэрыяльная забяспечанасць.

І ўсё ж праз два-тры гады работы ствараюцца... Пра адны крытыкі і калегі прымірэнча кажуць: «нішто сабе», пра другія—«добротная работа». Але росквіт, пра які марылася маладому чалавеку, так і не наступае. Цьмянеюць смелыя задумы, забываюцца мары. Нават калі ўрэшце ён атрымлівае майстэрню.

Калі выпускалі гэтага маладога чалавека, спадзяваліся: у яго талент, густ, культура. Ён зможа! Аказалася ж, што нарадзіўся рамеснік. Хто вінаваты? Сам мастак. І інстытут. І мастацкая грамадскасць. Канечне, па-рознаму складваецца жыццё маладых спецыялістаў, скажам, на перыферыі. Бывае, не ўласная воля, не талент выпускніка, не інтарэсы справы, а збег акалічнасцей і выпадковасцей кіруюць яго лёсам. Ды і тыя маладыя, якія «зачапіліся» за Мінск, нярэдка гадамі займаюцца работай, вельмі далёкай ад творчасці, спакваля губляюць набытае ў гады вучобы.

Толькі нямногія з патэнцыяльна адораных людзей дасягнулі пэўных ступеняў майстэрства. Асноўная ж маса задавальняецца афарміцельскай работай.

А гады ідуць. І толькі недзе к трыццаці наш мастак пачынае здагадвацца пра тое, што павінен быў зразумець дзесяць-дванаццаць гадоў назад.

Даволі сказаць, што Бацічэлі к 25 гадам выпрацаваў асноўныя элементы свайго стылю. Рафаэль у 21 год напісаў «Мадонну Грандуке». Мікеланджэла ў 26-гадовым узросце пачаў ляпіць «Давіда». Тыцыян у 20 гадоў стварыў «Дзінарый кесара». Веласкес к 20 гадам напісаў «Снеданне» і «Пакланенне валхвоў». Дзюрэр у 27 гадоў выканаў сваю галоўную работу—«Апакаліпсіс». Ван-Дэйк у 18 гадоў склаўся як майстар. Прыклады з рускага мастацтва яшчэ больш вядомыя. Успомнім хоць бы ранняга Сярова, што выйшаў з акадэміі. Яго першыя крокі пасля школы—«Дзяўчына з персікам», «Дзяўчына пад дрэвам»!..

Прычыны запозненага станаўлення нашых мастакоў, мабыць, не толькі ў нейкіх асаблівасцях сучаснага выяўленчага мастацтва, як думаюць некаторыя, а ў недахопе эстэтычнага выхавання ў дзяцінстве, на школьнай парце, у недахопах падрыхтоўкі вучняў і студэнтаў у мастацкіх установах, у не заўсёды спрыяльных для маладых спецыялістаў абставінах пасля вучобы (з 95 чалавек, узятых на ўлік камісіяй Саюза мастакоў БССР па рабоце з маладымі мастакамі, толькі 10 маюць творчыя майстэрні).

КАЖУЦЬ, што правіл у мастацтве не існуе, паколькі творчасць індывідуальная і не паддаецца рэгламентацыі. Так, правіл, можа, не існуе. Але пэўныя законы ёсць. І іх трэба вывучаць і ў мастацкіх школах, і ў вучылішчах, і ў інстытутах, каб ведаць. На жаль, да многіх «азоў» маладым даводзіцца даходзіць самім.

Існуе такі закон «трохкаляроўкі», які шырока ўжываўся старымі майстрамі. Яго ведаюць і многія нашы мастакі. Ведаюць, але адкуль? Чаму гэтаму не вучаць у інстытуце?

А кітайская перспектыва, калі пункт погляду рухаецца ўздоўж паверхні ліста, перадаючы момант часу? Ці многія ведаюць?

Студэнты ў асноўным вывучаюць лінію гарызонта, пункт сходжання. Але ж ёсць многа метадаў адлюстравання. І метад цэнтральных праекцый не заўсёды абавязковы.

Мастак ведае, што дарога, якая ідзе ў далеч, не звужаецца, што гэта падман зроку. Але ён усё ж пераносіць гэты аптычны «падман» на палатно. Яго пункт гледжання, замест таго, каб ахапіць увесь свет па ўсіх кірунках, «заціснуты» ілюзіяй дзвюх прамых, якія ўпіраюцца ў кропку сходжання. А што над гэтым клінам ці пад ім? Што справа або злева ад яго? Бо не можа ж тое, што ўнізе або зверху, злева або справа, не змяняць таго, што ляжыць паміж імі!

Сцяпан ГАЎРУСЕЎ

# ЗАДУШЭЎНАЯ ПЕСНЯ



КОЛЬКІ ДЗЁН — сонечных і хмурных — мінулася з таго дня, калі я ўпершыню сустрэў яго — абветрана-смуглага, з добрай усмешкай і энергічным поціскам рукі. У гулкім універсітэцкім калідоры — на фоне гаманлівага студэнцкага птаства — яго постаць вылучалася нейкай асаблівай салдацкай падцягнутасцю. Ён сапраўды нядаўна дэмабілізаваўся з арміі і—памятаецца — некуды спяшаўся: ці то ў бібліятэку, ці то на семінар. Пазнаёміліся. Ён назваў сябе. І прыгадалася, як за год перад гэтым Мікола Аўрамчык, хросны бацька многіх маладых паэтаў, задаволена паціраючы рукі, аднойчы сустрэў мяне ў сваім рабочым кабінеце запытаннем:

— Угадай, хто гэта напісаў:

Нібыта патроны з дыску,
Радкі дасылае памяць?

Я перабраў дзесяткі два імён, пакуль ён не рассмяяўся:

— Не ўгадаў. Гэта — Уладзімір Паўлаў. Салдат. Даём яго падборку. Цікавы паэт.

І вось ён стаяў перада мной. І, шчыра прызнаюся, было такое ўяўленне, быццам я ведаю яго даўно. Сёння я магу растлумачыць гэта тым, што былыя салдаты вельмі хутка знаходзяць агульную мову, яны неяк інтуітыўна адчуваюць адзін аднаго. Ён з ахвотай згадзіўся прачытаць два ці тры новыя вершы, прыглядзеўся, якое яны пакінулі ўражанне. задумаўся:

— Прабач, іншы раз пагаворым.

І пайшоў — размашыста, цвёрда.

Пасля — а сустракаліся мы часта— здзіўляла яго сабранасць, уменне берагчы свой і чужы час, адначасова займацца некалькімі важнымі справамі. Ён вучыўся і працаваў у рэдакцыі, выступаў у рэспубліканскіх і цэнтральных газетах, рыхтаваў чырвоназменаўскія літаратурныя старонкі і — галоўнае — пісаў сваё.

Трэба адзначыць, што гэты час быў характэрны інтэнсіўнымі пошукамі маладых у галіне формы. Ён жа — актыўны ўдзельнік гэтага працэсу — быццам зусім не звяртаў увагі на фармальнае наватарства. Магчыма, таму яго асабістая творчасць не прыцягвала падкрэслена-зацікаўленай увагі крытыкі. Цяпер, калі ён з'яўляецца аўтарам чатырох паэтычных кніг (апошняя днямі выходзіць з друку), можна бачыць, што пошукі яго ішлі ў іншым кірунку: ён проста шкадаваў часу на пустое. Нездарма аднойчы ён не стрымаўся ад прызнання, якое ў вуснах каго-небудзь іншага выглядала б фальшывым:

Для мяне хвароба, як знаходка,
Вечаровы сум.
Я тады—малюсенькая лодка
Ў акіяне дум.

Рэдка выпадае мне сам-насам
З песняю пабыць,
Бо штодня раскручан я тым пасам,
Што завецца—быт.

Забяру ў нязменнае суседства
Вецер і мароз.
Мне б туды, дзе нехта церпіць бедства,
Пасылае «SOS».

І далей ён параўноўвае вымушаны перапынак у працы з кароткім перакурам у напружаным маршы. Знамянальнае прызнанне! І сапраўды — пачуццё пастаяннай мабілізаванасці не пакідае паэта.

Яго дзяцінства, як і соцень аднагодкаў, апалена бязлітаснай вайной, яно прайшло пры «мёртвым святле парашутнай ракеты». І самае памятнае ўражанне яго тое, што атоесамляецца з вобразам маці-настаўніцы:

У завулак за рукі ты нас вяла раніцай,
Там забіты ляжаў партызан малады.
Гэта ты навучыла мяне яму кланяцца
І з гародчыка кветкі прыносіць сюды.

Цяжка было дзіцячым вачам глядзець у навакольны свет праз разбітыя шыбы (перад сном маці «падушку ўстаўляла ў акно, як браню»), але затое яны навечна навучыліся вызначаць колер нашай праўды. І хоць горка ўсведамляць, што «ў Замошшы маім паміраюць мужчыны» — паміраюць ад праведных ран — яны і сёння «на зялёным пагорку, прыкрываючы вёску, ляжаць ланцугом». Таму і салдацкая служба, калі часта напружанне дасягае мяжы магчымага і глыток сцюдзёнай вады здаецца заслужанай узнагародай за стому, успрымаецца як святая неабходнасць. Многія паэты параўноўвалі ранішнюю расу з серабром, брыльянтамі і г. д., але, здаецца, ніхто так не сказаў: «Травы буйнай расой, нібы соллю, апырсканы». І як добра, што праз гэту суровасць праступае такое чалавечнае, светлае пачуццё:

Пахне зямля маладой збажынаю,
Квеценню белай ды першым рамонкам.
Дзеўчына босая з доўгай касою
Звоніць на лузе парожнай даёнкай.

Але ж ёсць вышэйшае пачуццё — пачуццё салдацкага братэрства, змацаванае бясслоўнай клятвай:

Месяц доўга глядзеў нам з цікавасцю ў твар,
А, настыўшы, прыкрыўся пярынаю хмар.
А мы у абдымках без кроплі віна
Так і праседзелі ноч да відна,—
Бо ў нас служба адна,
Бо ў нас дружба адна.
Бо ў нас маці-Радзіма
Адна.

І таму гэта дружба здаецца тугім снапом, дзе не сорамна быць любым коласам. Галоўнае — трэба ўмець радавацца чужому шчасцю: «Ехаў мой сусед па шчасце, а мне весела было».

Цаніць чалавечую радасць вучыць нас жыццё. Асабліва востра гэта адчуваеш цяпер, калі з аголенай нагляднасцю ідзе няспыннае змаганне сэрцаў і ідэалогій. Адны людзі стараюцца расшыфраваць загадкавыя пульсары, а другія сумуюць па фашысцкай свастыцы; адначасова з перасадкай чалавечага сэрца паталоўна вынішчаюцца цэлыя в'етнамскія паселішчы; за турэмнымі кратамі чакае смяротнага прысуду негрыцянская камуністка, і ў той жа час прэзідэнт магутнейшай капіталістычнай краіны аб'яўляе амністыю прафесійнаму забойцу, кату мірнай в'етнамскай вёскі Сангмі; савецкі лётчык ахвяруе жыццём, каб няспраўная машына не ўпала на мірны горад дружалюбнай краіны, а ізраільскія экстрэмісты бамбяць арабскую школу... Як усё гэта ўмясціць у сэрцы, якое нічога не забывае!

Даўно зямлёй гарачы попел стаў.
Сплываў з вадой, ляцеў на ветры сінім.
На твары асядаў, на зелень траў
Яшчэ за два гады да Хірасімы.

Ён плошчу быў згарэлых у агні,
У тым агні, што мой народ прарэджваў.
За дваццаць пяць крычаў ён пра Сангмі,
За дваццаць пяць жывых нас папярэджваў.

Звіняць званы і кроў у жылах стыне,
І адступае прад жыццём нябыт.
Ў Хатыні 136 Хатыняў
І больш ніводнай тут не быць.
Не быць!

Свяшчэнная памяць ахвяр кліча нас да пільнасці. Якімі б заманлівымі ні былі посулы варожай прапаганды, мы заўсёды павінны адчуваць на сваіх плячах салдацкую скатку. Гэта нялёгка, але іншага выйсця няма:

Да часу слепа дрэмлюць мегатоны,
Трывожны сон на ўсіх мацерыках.
Зямля, нібы Сікстынская мадонна,
Дзяцей сваіх праносіць на руках.

І мацярынскай верай верыць:
Людзі
Праславяць мірам на вякі яе.
Ляцім мы ў космас,
А гардзіеў вузел
Рассекчы яшчэ сілы нестае.

Гэта высакароднае пачуццё заўсёды спадарожнічае паэту. І яму бывае часам па-чалавечы крыўдна, што не ўдаецца выкраіць дастатковай увагі роднаму сыну, расказаць захапляючую казку пра дзівоснае Сіняспор'е, якое не знойдзеш на геаграфічнай карце, але якое павінна быць у нашых дзяцей, бо яны пойдуць нашай дарогай — далей і смялей. І ў каюце падводнай лодкі, дзе ілюмінатар нагадвае цыклопава вока, добра мець перад сабой фотаздымак сына, каб не трацілася адчуванне: «На вахце за сына трывожыцца бацька, а сын — у каюце».

Што ж, корань жыцця неўміручы. Наперадзе яшчэ будуць спякотныя і завейныя дні, будуць шчаслівыя набыткі і непазбежныя страты, але важна, каб назаўсёды помнілася гэта: «У сінюю смугу адбягае вёска. Шукаю вачыма бярозу з адламанай верхавінай. Недзе там з унукамі мая маці. Хлапчукі каля яе, быццам тыя пасынкі ля бярозы.

Зноў паваротка, і Залессе хаваецца за пагоркам. А я гляджу і гляджу туды і, як бінт ад засохлай раны, не магу адарваць без болю позірк».

Гэта — заключныя радкі аповесці «Яжэліха».

Вышэй я зазначаў, што паэт не спакушаўся фармальнымі навацыямі. За гэтым — жыццёвая і творчая пазіцыя аўтара. І хоць яго лірычны герой не часта заставаўся безаблічным, аўтар разумеў, што не ўсё можна сказаць ад яго імя, што радаслоўная яго—больш змястоўная, чым паспела адлюстравацца ў паэтычных радках.

«У дзеда, а ў майго прадзеда, была няхітрая, дзівакаватая філасофія. Раней хата стаяла па той бок вуліцы. А яшчэ раней на месцы іх кotлішча вуліца зварочвала ў лес. Вялікі лес быў, дрымучы. Ласёў і мядзведзяў не пераводзілася. Ад лесу — і Залессе пайшло. Сяляне з атрадаў Каліноўскага, а можа і самога Вашчылы, знайшлі тут прытулак і схованку. Бралі круглую перапечку, такія яшчэ нядаўна і ў Залессі пяклі на кляновым лісці, ставілі на бок і кацілі, як дзеці абруч: у які бок заверне, падаючы, — у той і вуліца пойдзе. Так расказваў мацеры дзед. У жыцці яму не шанцавала, асабліва на дзяцей. Народзіцца і памрэ. І ўсё таму, гаварыў дзед, што хата стаяла на былой дарозе. Таму і бегла, плыло ўсё, як веснавая вада. «Не куецца, не плешчацца». Прынёс ён аднойчы з лесу бярозку: «Ежалі будзе расці — перасялімся на той бок». Прынялася бяроза. Пасля перацягнулі і хату, хоць дзеда ўжо не было. Памёр».

Былінным эпасам вее ад гэтых радкоў. На такой зямлі маглі жыць і сапраўды жылі і жывуць толькі людзі выключнай стойкасці і своеасаблівасці. І найбольш блізкія з іх сэрцу паэта — бацькі: маці з задуменнай песняй «Дунай нясе плыты», якой суджана ўвесь век хваляваца і за дзяцей, і за свайго чалавека; і бацька — абаронца і ўпарадчык новага жыцця. Ды не пра свой чалеснік іх галоўны клопат — горкія мужавы грошы, атрыманыя пасля чорных гадоў акупацыі, маці аддзе калгасу, як некалі аддала партызанам каня. Яна беражэ для народных мсціўцаў апошні кавалак хлеба — святога хлеба; хоць свае дзеці кладуцца спаць галоднымі. Яна нічога не шкадуе дзеля агульнай справы.

А ў самой мара — пажыць хоць трошкі ў новай хаце, налюбавацца на ўнукаў, калі збяруцца. Не ўправіўся гаспадар, дужа зарана лёг на зялёным пагорку ад пасляваеннай бандыцкай кулі, абараняючы арцельнае дабро. Толькі запавет паспеў сказаць сыну: «Калі жыць ды не працаваць, то і жыць не трэба».

Карціна за карцінай, штрых за штрыхом праходзіць перад намі жыццё, такое зразумелае ў сваёй сутнасці і нявыдуманае ў нечаканых падрабязнасцях. Мы бачым і тых людзей, хто не шкадаваў жыцця дзеля перамогі, і тых, хто здрадзіў народу. І ніводным тонам паэт не грашыць супраць праўды.

Аповесць — лірычная і, прадбачачы магчымыя папрокі, аўтар суправаджае адзін з раздзелаў іранічным эпіграфам: «Без лірычных адступленняў не вяжацца сюжэт!». Мы толькі можам з задавальненнем адзначыць, што, не здрадзіўшы паэзіі, ён прыйшоў і ў прозу. Адна рука адчуваецца ўсюды — і ў энергіі фразы, лаканічнай і дакладнай, і ў адухоўленасці свету, у якім жывуць любімыя героі паэта. Ён ва ўсім захоўвае такт і меру. Часам тое, што было пункцірна намечана ў вершах, раскрыта з належнай паўнатой у прозе. Напрыклад, апісанне фашысцкай бамбёжкі дзіцячага эшалона.

Я не стаўлю сваёй мэтай дэталёва аналізаваць прозу паэта, хоць гэта задача цікавая — і ў сэнсе кампазіцыі, і арганічнасці дыялога, і абумоўленасці скразнога дзеяння, і жанравых сцэн, і ўмелага спалучэння паводзін дарослых і дзяцей. Хацелася б толькі звярнуць увагу на тое, як натуральна ўжываюцца між сабой рэчы рознапланавай танальнасці.

Вось досвіткавы сон дзяўчыны Улі: «Не расплюшчваючы павек, падклаўшы пад галаву рукі, Уля ляжала ў ложку. Праз верхнюю шыбіну пад адтапыраны краёчак прасціны ўпаў ёй на грудзі сонечны прамень. Скруціўся ў цёплы камячок, прыгрэўся, заснуў. Яна баялася павярнуцца, каб не спудзіць яго».

А вось партрэт яе каханка Пашкі: «Хадзіў ён у ссунутай на патыліцу кепцы з доўгім казырком і ў хромавых ботах. Халявы ботаў заўсёды былі падкасаны — хлопец хацеў выдаваць вышэй свайго росту. Белы паднарад халяў і шырокія кішэні галіфэ, насуперак жаданню Пашкі, рабілі яго нязграбным, чымсьці падобным да маладога пеўніка... Затое ў загадчыка клуба была процьма ідэй».

Гэта — з аповесці «Спелыя травы».

Прамень і халявы.

Яны б не ўжыліся, каб не былі абумоўлены характарамі — летуценным і дзелавітым.

А самі сяброўкі — Уля і Волька, такія падобныя і розныя. А як каларытна выпісана многае-многае іншае: выпускны вечар у школе і выкрыццё першага дыверсанта, бой з нямецкімі парашутыстамі, сумнае акупацыйнае вяселле і расстрэл партызанскіх дзяцей, немец-курашчуп і партызанская блакада, сватаўство начальніка паліцыі і пілаванне лесу «на кубаметры» — пасля вызвалення. І за ўсімі гэтымі карцінамі — людзі, добрыя і нягодныя, акрэсленыя эканомна, але запамінальна.

Не, «ваенных медаляў гром не аціх», як некалі было здалося паэту. У сэрцы яго няўмольным часам выгравіраваны незабыўныя вобразы, якія ён шчодра данёс да нас. Асаблівай напоўненасцю вылучаецца Уля — чыстая, гордая, працавітая, якой лёс не судзіў спазнаць шчасця.

«Загадкавую прафесію абраў сабе Кастусь. Вучыў, вучыў сваю фізіку, а прафесіі яго ніхто так і не ведае. Дадому таксама нічога не піша. Аднойчы Мікола прынёс у Залессе навіну, якая ўскалыхнула ўсіх. На шахце, дзе ён працуе, паказвалі фільм пра космас. У ім Мікола і ўбачыў Кастуся. На адну хвілю мільгануў кадр. А Мікола б'е сябе ў грудзі, што «пазнаў Ганнінага хлопца».

Што ж, мы спадзяёмся, што гэты хлопец некалі з'явіцца ў творах паэта.

# ГІСТОРЫЯ ПАШТОЎКІ

Мы даўно прывыклі да простай паштоўкі і не задумваемся, ці даўно яна нам служыць. А між тым гісторыя паштоўкі надзвычай цікавая. Паштоўку «вынайшлі» даўно і нядаўна.

...Прыкладна 2 тысячы год да нашай эры егіпецкія пісцы паслалі данясенне фараону аб перамозе яго войска над семітамі ў раёне Бенігасана. Кавалкі папіруса з данясеннем яны ўпрыгожылі эпізодамі вайны...

У час франка-прускай вайны ў 1870 годзе ў Брэтані знаходзілася 40-тысячная французская армія. Салдаты пісалі шмат пісьмаў сваякам і блізкім. Але скончылася папера, у ход пайшло ўсё, на чым можна было пісаць. Узніклі паштовыя няўвязкі. Усё гэта выкарыстаў гандляр кнігамі Л. Бенардо, які пусціў у ход наяўныя запасы тонкага брыстольскага кардону, нарэзаўшы яго невялікімі кавалачкамі. Затым ён зрабіў на гэтых кавалках кардону двухколерную віньетку патрыятычнага зместу. «Вынаходніцтва» маланкава разышлося.

У тым жа годзе іншы кнігагандляр, немец Шварц, выпусціў мастацкія паштоўкі. Такім чынам, паштовую картачку «вынайшлі» двойчы— дзве тысячы год да нашай эры і амаль 100 гадоў назад. Паштоўкі таго перыяду былі даволі прымітыўнымі. Часам гэта былі проста паштовыя бланкі без упрыгожванняў. Сучасны выгляд паштоўка набыла ў пачатку XX стагоддзя. Цяпер іх выпускаюць і з дрэва, і з пластмасы, з валасоў і з бісеру, ёсць паштоўкі, якія спяваюць, мяўкаюць, паштоўкі аб'ёмныя, рэльефныя і г. д. Пасля землятрасення і пажару ў Сан-Францыска ў 1906 годзе, калі ўсім, хто перажыў стыхійнае бедства, хацелася падаць весткі сваякам і блізкім, пошта ў сувязі з адсутнасцю паперы выпусціла арыгінальныя «паштовыя картачкі» з матэрыі, фанеры, кавалкаў кары і скуры. Цяпер гэтыя «адкрыткі» з'яўляюцца вялікай рэдкасцю і захоўваюцца ў альбомах калекцыянераў.

У пачатку стагоддзя ў царскай Расіі паштоўка стала сродкам прапаганды перадавых ідэй, зброяй барацьбы супраць самадзяржаўя. Паштоўкі, выпушчаныя ў памяць 1905 года, у дзень смерці Л. М. Талстога і многія іншыя, канфіскоўваліся і нават «арыштоўваліся» ўладамі. У 1903 годзе журналіст М. Стож з мэтай папулярызацыі месц, звязаных са знаходжаннем у Сібіры дзекабрыстаў, выдаў серыю паштовак. Аднак першая партыя гэтых паштовак у колькасці 1500 штук была канфіскавана цэнзурай. Узнікла справа аб «арыштаваных» паштоўках з малюнкам дома дзекабрыстаў, капліцы, пабудаванай імі ў Чыце. Цяпер гэта незвычайная справа з прыкладзенымі «крамольнымі» паштоўкамі захоўваецца ў Цэнтральным гістарычным архіве ў Ленінградзе. Яркім прыкладам выкрыцця самадзяржаўя з'явіўся выпуск серыі адкрытак, з якой адна стала самай вядомай: «Адзін з сошкай, сямёра з лыжкай».

Паштоўкі, выдадзеныя ў першыя гады Савецкай улады, заклікалі да барацьбы з інтэрвентамі, голадам, разрухай, заклікалі запісацца ў Чырвоную Армію. Пазней выпускаліся цэлыя серыі паштовак з надпісамі: «Бядняк — у калгас!», «Трактар сіла — саха магіла!», «Камсамол — на трактар!» Разыходзячыся па краіне, паштоўкі заклікалі працоўных да выканання першых пяцігодак, клікалі моладзь на будаўніцтва Камсамольска, Магніткі.

У гады Вялікай Айчыннай вайны паштовыя адкрыткі разносілі па краіне словы партыі, узнімаючы народ на барацьбу з фашызмам. Удзельнікі вайны добра памятаюць прамавугольнікі з тонкага кардону са словамі: «Усё для фронту, усё для перамогі!».

Паштоўкі сталі неад'емнымі спадарожнікамі нашага жыцця. Яны дазваляюць савецкаму чалавеку «заглянуць» у музеі свету, пазнаёміцца з архітэктурай гарадоў, наблізіцца да скарбніц сусветнай культуры, да твораў чалавечага генія. У мінскіх калекцыянераў ёсць багатыя зборы паштовак, прысвечаных У. І. Леніну, беларускім гарадам, гістарычным падзеям у рэспубліцы.

**Л. КОЛАСАЎ.**



Васіль МАКАРЭВІЧ



# СЕНАКОС

*Апошнім часам я працую над новым творам пра сваё маленства і маленства сваіх аднагодкаў. Твор у нейкай ступені з'явіцца працягам паэмы, якая была надрукавана на старонках часопіса «Полымя» ў 1969 годзе. Прапаную чытачам адзін з раздзелаў.*

АЎТАР.

Дзе пожняй, а дзе лагчынай,
у гудзе і пчол, і вос,
з мядовай янтарнай вашчынай
ішоў у сяло сенакос.
У год той пасляваенны,
дужы ты ці інвалід,
а з лугу пацягне духменем, —
ідзі і мурог валі!
Ну, а калі ты салдатка,
гаротная ўдава,
трэба тады ўпрыхваткі
табе шчыраваць удвая.
Дармо, што касу у рукі
браць, можа, ў навіну.
Ці ж гэткую вы навуку
адолелі за вайну?!
Маці касу даставала,
што пад страхой, ля сцяны,
вузкай палоскай сталі
ржавела ад самай вайны.
А калісь нават і ў цэню,
абмыўшыся чыстай расой,
зырчэй ад маланкі зіхцела
у дзеда яна пад рукой.
Бо нездарма у золі
ад восені дзень пры дні
мачыў яе дзед у расоле
і гартаваў на агні.
Пасля, каб ніхто не сурочыў,
як кволае немаўля,
душнай рабінавай ноччу
ў шаптухі яе замаўляў.
І ледзь паспявалі птушкі
шугаць угару з-пад ног,
калі сваёй лапатушкай
дзед падцінаў мурог.

Кароўку прагнаўшы на пашу
(трэба ж радоўку адбыць),
сядала маці перш-наперш
касу-лапатушку адбіць.
З самага ранку за хатай,
схаваўшыся у цянёк,
нястройна, як бусел цыбаты,
біў, клекатаў малаток.
Сам ён з сябе дзвіўся —
патрапіць не мог у такт.
Ці ён кляпаць развучыўся,
ці ім кляпалі не так?!
Як ён, дзівак, ні стараўся,
нічога не мог парабіць —
то наляту спатыкаўся,
то біў, дзе не трэба біць.
Па клёпу не йшоў, а клыпаў.
Сам пра сябе гадаў:
можа, дзе-небудзь падвыпіў
ці падгуляў гаспадар?!
Раней жа, нават спрасоння,
на досвітку ён, малаток,
лятаў у руцэ над касою
спрытней, чым у ткаллі чаўнок!
Адкуль жа было яму ведаць,
зялёнаму ад муравы,
што з раніцы ён, непаседа,
кульгае ў руках удавы;
што тая амаль што плача,
і з-за пякучай слязы
перад сабой не бачыць
ні малатка, ні касы.

Не ў торбу,
ў трафейны ранец —
выцвілы і руды —
ныраў праснака акраец
ды агурок з грады.
Упоравень з нізкімі стрэхамі,
на кволым жаночым плячы,
каса па прывычцы ехала,
носам уніз клюючы.
Танюткай празрыстай
ільдзінкай
ля кожнага мо двара
аб голле весела дзынкала,
гукала звонка:
— Пара!..
І косы, нібы на свята,
пад навіссю вішнякоў
да брыгадзіравай хаты
з усіх праставалі бакоў.
Пасля на спякоце нясцерпнай,
на фуры дрогкай старой,
дарогу ўсю, як цяцеркі,
цёхкалі між сабой.
Шчаслівыя і прачулыя,
радаваліся, як адна,
што ні асколкам, ні куляй
не зачапіла вайна.
Хацелася ўскочыць на білы
і тым, хто за імі ішоў,
ад радасці крыкнуць штосілы:
— Глядзіце! Мы з вамі зноў!
Толькі, як ні ўзіраліся
зблізку ў твары касцоў,
як іх пазнаць ні стараліся, —
не пазнавалі і — ўсё!
Замест шапкі-трохклінкі,
ношанай колькі гадоў,
паўсюль стракацелі хусцінкі
дзяўчат і маўклівых удоў.
Каб загадзя зналі пра гэткае,
то ўсе, да адной касы,
нават і з-пад паветкі
не краталіся б зусім!..
І маці, пачуўшы іх голас,
дарогай, што глуха гула,
як па гарачым вуголлі
услед за падводай ішла.

Як на лясным такавішчы
цяцеркі ў ранняй цішы,
каля ракі увішна
свісталі косы: чыў-ш-шы...
Толькі матуліна коска
не слухалася, як на грэх,
то, як па лёдзе коўзкім,
слізгала ўніз, уверх.
То лёгка, як перапёлка
у маладой крапіве,
скакала яна па золкай —
ад ранішніх рос — траве.
Ступаючы ў стылых чунях,
і з века змахнуўшы слязу,
аднымі губамі, ледзь чутна,
матуля прасіла касу,
каб, спрытная і маладая,
як дзеўка ў семнаццаць свае,
хоць трошкі ёй паспагадала,
салдатцы і удаве.
Каб на шырокай пожні,
пад лёгкі шолах бяроз,
слухмяна траву мурожную
валіла яна ў пракос!
У рыжых іржынках-вяснушках,
якіх не сатрэ й асака,
для маці ж яна не служка, —
памочніца і дачка!
Вясной з лубяной сявенькай,
а ўлетку з зіхоткай касой,
неяк жа трэба сямейку
ёй пракарміць адной.
Клялася маці, што ўсюды
і раніцай і ўначы,
яе, шчабятушку, будзе
як вока сваё, берагчы!
І ў травах густых на дзіва,
як колісь і ў дзеда раней,
з кожным крокам хадзіла
каса спрытней і раўней.
Ад куста да шэрага куста,
дзе долу мячэўнік палёг,
смачна, з настылым хрустам,
рэзала коска мурог.
Пракос за пракосам шахала,
скінуўшы душны каптан,
аж адпаўзаў са страху
далей у затоку туман...
Нарэшце, луку канчала,
зваліўшы долу званец...
Сасмяглая, ледзь выдыхала
матуля нарэшце: канец!
Усё у вачах яе меркла.
Не бачыла ад ракі,
як брыгадзірава мерка
цыбала напрасткі.

Дамоў беручыся памалу,
не чула нават яна,
як на кані абганяла
ля вёскі яе
навіна.
І са смаловага шула
на гулкім калгасным двары
з «Маланкі» яна матулі
падміргвала, як сястры.
«Ура Лісавеце-ўдарніцы!
(Чырвань шугала у твар).
На пожні яна за раніцу
травы аблажыла гектар».
Ад той пахвалы няпрошанай
адходзіла маці хутчэй.
Слёзы, буйныя гарошыны,
сыпаліся з вачэй.
Ішла яна, цяжка ступала
па ценях шэрых, рабых.
Насустрач з двара высыпалі
дзеткі, як вераб'і...

Штэфан КАСАРДА

АПАВЯДАННЕ

# Ах, гэтыя французы...

РАБОТНІКІ атэлья ветліва раілі гасцям адмовіцца ад прагулак і турысцкіх вылазак, бо на вуліцы лютуе завіруха і па радыё аб'явілі, што хуткасць ветру — 164 кіламетры ў гадзіну, і што недзе бурай паваліла і павырывала дрэвы з карэннем, недзе ім абламала-верхавіны.

Дзённы бар быў побач з басейнам, праз шкляную сцяну былі відны купальшчыкі і дзяўчына за пультам. Госці чыталі газеты, пілі каву, заказвалі кактэйлі, і афіцыянтка чырванела, бо якраз цяпер — ні кока-колы, ні тоніка.

— Шкада, пане, — сказала дзяўчына шыракаплечаму немцу, — але з-за непагоды нам нічога не падвезлі.

Немец сеў на круглае крэсельца бара, і амаль усе госці заўважылі дыспрапорцыю паміж памерамі крэсельца і гарганцюа, які на ім сядзеў і гарэзліва спрабаваў круціцца. Яму гэта ўдавалася: нехта засмяяўся з гратэскавага жадання немца навязаць неадпаведныя ўяўленні аб сваёй таўшчыні тым, хто на яго глядзеў. Нарэшце, ён заказаў віскі.

— Добра яшчэ, што ў вас узімку хапае лёду, — нахабна заўважыў ён, і дзяўчына пачырванела яшчэ больш, а потым у бар увалілася яго кампанія, і яны змовіліся піць піва.

Гастон сядзеў адзін. Раніццою прыкрасць ад таго, што нельга будзе працягваць здымкі, ён у сабе пераадолеў, людзей сваіх адпусціў — зрэшты, яны два тыдні працавалі, як заклятыя, нават красу наваколля ўспрымалі толькі краем вока і прафесійна, без натхнення. Аднак Гастон хацеў закончыць фільм пра тутэйшыя невысокія горы як мага хутчэй, каб потым мець час на вольныя вандроўкі і роздум, бо гэты край ён ведаў, у час вайны яму вельмі падабаліся нязломнасць і непадкупнасць людзей гор.

Ён сядзеў у кутку, спадзеючыся, што дзікі рогат выпівох не перашкодзіць яму засяродзіцца на зменах у сцэнарыі, але шум падзейнічаў і на яго. Ён заказаў грог — яму здавалася, што ў такую завіруху можна піць толькі грог. Пацягваючы яго з кубка, Гастон усё ж зацікавіўся сцэнкай каля пульта: на крэсельцах (іх было трынаццаць — ён нечакана для сябе палічыў) людзі сядзелі паводле нейкага ненатуральнага парадку: у сярэдзіне — магутны немец, ад яго направа і налева — усё ніжэйшыя і ніжэйшыя ростам, незалежна ад таго, мужчына ці жанчына.

«Германацэнтрычная сістэма» — падумаў Гастон, скіроўваючы сваю ўвагу на вяршыню гэтага германацэнтрычнага ўтварэння.

І Гастон раптам злавіў сябе на тым, што яго замест жаху ахоплівае нешта накшталт жорсткай забавы. Ясна. Той таўстун — гэта лейтэнант Ганс...

Лагер ваеннапалонных у Люксембурзе.

Гастон і яго сябры з атрада — вязні. Трапілі ў пастку з-за сваёй жа неасцярожнасці. Спачатку іх замкнулі ў хлеў пад аховай, потым кінулі ў лагер, за калючы дрот. Камендантам лагера быў малы злосны каратыш, на вячэрняй пераклічцы ён стаяў на дыбачках.

І быў яшчэ афіцэр, які меў на воку іх барак. Лейтэнант Ганс, цяжкаатлет з чыстым, густым басам. Даволі стройны, наколькі яму гэта дазваляла камплекцыя. Можна сказаць, красамоўны. Бадлера чытаў у арыгінале. Няспска ведаў Паскаля.

Бурныя спрэчкі наконт злоўжывання ўладай. Спачатку — славесныя паядынкі. Закасцянелыя, у строгіх рамках, веды лейтэнанта і дасціпнасць Гастона. Зло — дабро. Эпас.

Уменне сумнявацца, уменне верыць, уменне паміраць.

Але дыспуты і паражэнні ў іх ператваралі Ганса ў злавесную пачвару. Ён пачаў біць вязняў нагайкай па твары. Гастона ён спачатку не адважваўся ўдарыць, а потым прыдумаў гэтую гульню. Лагерны двор. Трынаццаць крэслаў. Направа і налева па шэсць чалавек паводле росту. У цэнтры — лейтэнант Ганс. Насупраць — дванаццаць узброеных салдат.

Лейтэнант Ганс:

— Ці сумняваецца хто-небудзь у перамозе Германіі ў гэтай вайне? Першы справа!

— Сумняваюся.

Стрэл.

Першы злева. Стрэл. Другі справа...

— Не сумняваюся.

Лейтэнант Ганс:

— Ты гэта гаворыш толькі ад страху перад смерцю, але ў нашай перамозе не ўпэўнены.

Стрэл.

Адзінаццаць стрэлаў.

На крэслах засталіся сядзець Ганс і Гастон.

Лейтэнант адсылае салдат.

Гастон развітаўся з усімі застрэленымі сябрамі, даруючы грэх тым, хто адмовіўся ад сваіх перакананняў у надзеі выжыць. Чакаючы сваёй чаргі, ён падрыхтаваў адказ і не лаканічны. Ён напружана чакаў пытання Ганса, але той, загадаўшы адцягнуць мёртвых, сказаў:

— Прымаючы пад увагу, што ваша колькасць пастаянна змяншаецца, можна не сумнявацца. Вас у гэтую хвіліну на адзінаццаць меней. На Украіне — таксама, у Польшчы — таксама, у Брэтані — таксама.

Лейтэнант саскочыў з крэсла і прапанаваў Гастону:

— А цяпер перасядзьце на маё месца.

Гастон павольна перасеў на крэсла лейтэнанта і, пакорліва паклаўшы рукі на калені, чакаў.

— Я сказаў бы, што для вас гэта ганьба — сядзець на крэсле, дзе хвіліну назад сядзеў нямецкі афіцэр, якім вы пагарджаеце, — пачаў Ганс.

— Я пагарджаю ім, — адказаў тады Гастон, — але не ўспрымаю гэта як ганьбу, бо не маю выбару.

— Вы маглі не паслухацца, — даводзіў лейтэнант.

— Мог, але ў гэтым выпадку я ўжо не меў бы магчымасці сказаць, што грэбую не толькі адным нямецкім афіцэрам, але ўсёй вашай крыважэрнай уладай.

— Гэта значыць, усімі немцамі?

— Усімі немцамі, якія нанеслі страшэнныя раны свету. Калі хочаце, такімі немцамі, як вы.

— Нашы намеры—высакародныя. І ў імя пэўных прынцыпаў мы вымушаны ліквідаваць тых, хто нам перашкаджае.

Гастон хацеў спытаць лейтэнанта, якія гэта прынцыпы, але Ганс апярэдзіў яго:

— Зрэшты, вы маглі б радавацца, што жывяце і сядзіце на тым месцы, дзе хвіліну назад сядзеў я.

— Трэба было мяне застрэліць. Я не хачу быць вам удзячны.

— Вы ненавідзіце мяне,—вымавіў лейтэнант. — Можаце неяк праявіць свае пачуцці. Я вам дам магчымасць.

Ганс аднёс аўтамат да сцяны барака. Гастон бачыў сотні твараў, прылепленых да акон барака, — там усе чакалі, чым скончыцца гэтая гульня.

Лейтэнант стаў перад Гастонам.

— Я такі ж бяззбройны, як і вы. У вас ёсць пэўныя магчымасці.

Гастон выпрастаўся на крэсле.

— Нянавісць да такіх людзей, як вы, — павольна вымавіў ён, — гэта яшчэ праява добразычлівасці.

— Добра, — са злосцю адказаў лейтэнант. — Але з гэтай хвіліны вы будзеце кожны дзень сядзець на гэтым крэсле, і кожны дзень мы будзем побач з вамі расстрэльваць дванаццаць палонных. Вас — не. Даражыце такой увагай. І радуйцеся нянавісці астатніх. Гэтай прывілеі сябры вашы не даруюць вам ніколі. Яны будуць лічыць вас паршывай авечкай, даносчыкам — мы застрэлім толькі тых, якіх выдалі вы. Так будзе аб'яўлена ў загадзе па лагеры.

І так было дзён дзесяць.

Гастон заўсёды сядзеў на сярэднім крэсле, каля яго гучалі стрэлы, і бязвольна схіляліся і падалі на зямлю сябры, а ён, здранцвелы, сядзеў, аж пакуль ужо не было каго расстрэльваць. Гастон сядзеў цэлымі днямі, ад пабудкі да вячэрняй пераклічкі, адзін. Калі гэта здарылася першы раз, лейтэнант з зараджаным аўтаматам сказаў:

— Тыя, каго вы выдалі, ужо мёртвыя. Сёння мы расстраляем даносчыка.

Ён нацэліўся аўтаматам, але не стрэліў.

— Та-та-та-та-та-та-та-та-та-та... — пракрычаў ён.

Гастона пры першых гуках гэтай «чаргі» пачало нудзіць, потым ён пачаў губляць свядомасць і ўпаў з крэсла. Лейтэнант зноў пасадзіў яго.

— Сёння мы пажартавалі,—сказаў ён, — але заўтра зробім як след.

Уначы Гастон не звёў вачэй, бо ясна, што лейтэнант яго застрэліць, а лагер, напэўна, ліквідуюць, і ён будзе апошняй ахвярай. Праўда, рускія ці амерыканцы ўжо, відаць, блізка, бо ў лагеры засталіся толькі лейтэнант, яго дзяншчык, кухар і шафёр.

Раніцай лейтэнант памог яму сесці на крэсла.

— Трымайцеся, — загадаў ён Гастону. Потым, у начышчаных да бляску ботах, адышоўся на некалькі крокаў, павярнуўся да Гастона і сказаў:

— Учора была толькі рэпетыцыя. Але сёння... Та-та-та-та-та-та.

Гастон зноў не вытрымаў напружання і зваліўся з крэсла. Але дзяншчык лейтэнанта прывязаў яго да спінкі, і Гастон сядзеў так да вечара. А ноччу, калі ён, зусім знясілены, ляжаў на нарах адзін у бараку, увайшоў лейтэнант.

— Ваш найбольшы вораг — не я, а ваша існаванне, — заявіў ён. — Вы баіцеся за сваё жыццё. А наша гульня будзе працягвацца і заўтра. А можа, і даўжэй. Няпэўнасць — таксама пакаранне. Дабранач.

Апошнія словы Ганс вымавіў вельмі цырымонна, а Гастон яшчэ знайшоў у сабе сілы, каб зняславіць сваімі словамі яго цырымоннасць:

— Канчайце зараз.

Але гульня не скончылася, лейтэнант назаўтра выпаліў чаргу зноў языком, а ўвечары ніхто не прыйшоў адвязаць Гастона ад крэсла. І на другі дзень не прыйшоў ніхто. Ён і спаў так, прывязаны да крэсла. І калі на трэці дзень убачыў, як набліжаецца да яго чалавек з аўтаматам, то не зразумеў, што гэта не Ганс, а польскі салдат, які прыйшоў разам з Чырвонай Арміяй.

Прайшло нямала часу, пакуль ён апамятаўся. А потым, пазней, ён спрабаваў забыць пра ўсё, што было звязана з вайной. Часам гэта ўдавалася, але ненадоўга, вайна вярталася не ў тым, дык у іншым выглядзе, але ніколі ў такім нечаканым, як зараз. Ён пазнаў тоўстазадага лейтэнанта.

Ад разгубленасці Гастона нават кінула ў пот. Што рабіць? У гэтую вось хвіліну? Выдаць яго тутэйшым уладам? Альбо схапіць са стала вазу і агрэць па патыліцы?

Ён устаў, прайшоў паміж сталамі да бара, міла ўсміхнуўся барменцы, стаў на яе месца якраз супраць таўстуна, выцягнуў з халадзільніка бутэльку шампанскага, навёў яе на немца і крыкнуў:

— Лейтэнант Ганс! — і, прымаючы бутэльку, як аўтамат, застракатаў: — Та-та-та-та-та-та...

Ганс адразу страціў самаўпэўненасць і, калі пасля Гастонавага залпу корак бутэлькі ўзляцеў некуды аж пад люстру, таўстун ляжаў пад крэсламі.

Калі яму памаглі ўстаць на ногі ён не пайшоў пратэставаць да дырэктара атэля, як раілі яго абураныя прыяцелі. Ён сказаў, што з-за непрадбачаных гандлёвых спраў вымушан тэрмінова выехаць на радзіму, і на такія дробязі ў яго не застаецца часу.

— Ах, гэтыя французы, гэтыя французы, — сказала дзяўчо за пультам бара, калі Гастон, як заўсёды, сеў у сваім кутку.

Пераклаў са славацкай
Алесь МАЖЭЙКА.

# СУВЯЗІ БРАТНІЯ, УЗАЕМНЫЯ

(Заканчэнне.
Пачатак на 13-й стар.).

прысутнічала звыш 20 тысяч гледачоў. На адным канцэрце Дзяржаўнага хору БССР у Пазнані было 10 тысяч чалавек.

Сувязі беларускай і польскай нацыянальнай культур ажыццяўляюцца і ў форме ўзаемнага абагачэння рэпертуару тэатраў. Так, тэатр імя Я. Купалы паставіў п'есы А. Фрэдра «Дамы» і гусары», Ю. Славацкага «Смерць ваяводы», тэатр імя Я. Коласа, Гродзенскі і Магілёўскі абласныя драматычныя тэатры — п'есу Г. Запольскай «Мараль пані Дульскай», тэатр юнага гледача — п'есу І. Юргялевіч «Восем лялек і медзведзяня», тэатр оперы і балета—оперу С. Манюшкі «Страшны двор».

Варшаўскі дзяржаўны народны тэатр, Дзяржаўны вялікі тэатр г. Чэнстахова паставілі камедыю В. Вольскага «Несцерка», Варшаўскі дзяржаўны тэатр «Сірэна» і Апольскі тэатр — камедыю К. Крапівы «Хто смяецца апошнім».

Усё часцей гучыць у Беларусі польская музыка.

Пастаянна расце аўдыторыя кінагледачоў — аматараў польскіх фільмаў у Беларусі. Толькі за 1965—1969 гг. у Беларусі дэманстравалася 48 польскіх паўнаметражных фільмаў. А кінапракаты ПНР набываюць мастацкія фільмы вытворчасці «Беларусьфільм».

Нашы рэспублікі ўзаемна абменьваюцца выстаўкамі выяўленчага і прыкладнога мастацтва, мастацкага фота, работ народных умельцаў.

Буйнейшай і самай значнай падзеяй культурнага жыцця нашых народаў сталі Дні беларускай культуры ў ПНР і Дні польскай культуры ў БССР.

Так сама сацыялістычная рэчаіснасць звязала абодва братнія народы агульнай ідэяй брацтва і салідарнасці. Гэтая сувязь узаемная і сапраўды братняя.

А. ЯСІНСКІ,
старшы выкладчык кафедры навуковага камунізма БПІ.

